# НАША НІВА

*Беларуская газэта* **№11, 1994**


**КЭН КІЗІ,** аўтар «Палёту над зязюліным гняздом» пасьля шматгадовага перапынку выдае новы раман і дае аптымістычнае інтэрвію.

**КАЎКАЗ** вяртаецца ў расейскую літаратуру Адоеўскі, Лермантаў... Хто наступны паедзе туды, каб са зброяю вырашаць свае «душэўныя» праблемы?

**ЭДУАР БАЛЯДЗЮР** кажа, што нам трэба выбіраць альбо СНГ, альбо Эўрапейскі Зьвяз. У кожным выпадку эўрапейская стабільнасьць закончыцца на нас

**АЛЬБЭР КАМЮ.** Праз трыццаць гадоў пасьля гібелі пісьменьніка яго дачка згадзілася на публікацыю апошняга рамана Камю Сёлета кніга выйшла у Парыжы



*Здымак Алены Адамчык*

# НОВАЭЎРАПЕЙСКІ РЭГІЁН

## МАГІЛЁЎСКІ НУМАР «НН»

Фундатар гэтага нумару — Магілёўская Рада БНФ



*Магілёўская кафля XVII стагодзьдзя*

# Мясакамбінат і элеватар

Сяргеи Мацёры

Мяне накіравалі да другога ці трэцяга намесьніка мэра

— Вы ўжо пішаце? — сказаў малады чыноўнік, — я буду чытаць запар, а вы натуйце, што трэба, — і апусьціў вочы ў свой нататнік — Гісторыю я апускаю, прачытаеце ў энцыкляпэдыі, — ён перагарнуу нскалькі старонак — Ага Самае буйное прадпрыемства — мясакамбінат

— Мясакамбінат? — дзелавым голасам перапытаў я

— Так Мясакамбінат I элеватар Элеватар

— Зразумела Элеватар А які зь іх буйнейшы?

— Мясакамбінат

— Мясакамбінат?

— Так I элеватар Яны аднолькавыя

— Зразумела

— Пойдзем далей Дзьве школы Сярэднеадукацыйныя Рэстаран — раптам ён нэрвова падняў вочы, — а што вас уласна цікавіць? Я не разумею Што тут увогуле можа цікавіць? Вы прыехалі на адзін дзень, але тут ня Рым ці якая там Аўстралія Тут нічога цікавага няма

— А элеватар? — сказаў я, баючыся, што ён успрыме гэта як зьдзек — А мясакамбінат?

— Яны аднолькавыя, — мэханічна адмахнуўся чыноўнік — Я, ведаеце, сам тут не надоўга Неабходная прыступка ў кар'еры Звычайна турысты абмінаюць гэты край Хіба што нехта заблукаецца Тады ходзяць, фатаграфуюць, абмяркоўваюць.. Нейкія руіны, цэрквы нейкія Ім гэта цікава Але вы ж мясцовы чалавек...

Пры гэтых словах ён азірнуўся Але мяне ў кабінэце ўжо не было

# Адваротны бок сэнтымэнтаў

Андранік Антанян

ПАДАНЬНЕ

Назва гораду — Магілёў — мае не такую відавочную этымалёгію, як, скажам, Прапойск або які-небудзь Брагін, але й не хавае сваіх каранёў, як Масква, што напачатку была толькі Кучкай, бо пачатак сталіцы Расейскай Фэдэрацыі даў баярын Кучка, а распавёў пра гэта мне й маім аднакурсьнікам выкладчык старажытнай расейскай гісторыі з прозьвішчам Кучкін

Што тычыцца Магілёва, то адныя гісторыкі кажуць, што назва паходзіць ад уласнага імя аднаго з князёў Льва Могія (Магутнага), які валодаў местам на берагох Дняпра й Дубравенкі; другія кажуць, што магутнасьць тут ні пры чым што гэта толькі «мох і лоў» маўляў, у старадаўнія часы тут толькі й рабілі, што рыбу лавілі ды мох скублі. Але балай у кожнай кніжцы па гісторыі гораду можна прачытаць сэнтымэнтальнае паданьне пра паходжаньне назвы сёньняшняга абласнога цэнтру й яго амаль мітычнага заснавальніка

Жыў-быў хлопец Машэка й кахаў ёй дзяўчыну Наталку, і ўсё было б добра, каб не зьявіўся на лаляглядзе злы й пажадлівы Пан, натуральна не казланогі (бо тыя збольшага вясёлыя й на флейтах граюць), які й адбіў у Машэкі яго каханую ды зьвёз яе ў свой замак Ці ўмеў спакусьнік граць на флейце — паданьне маўчыць, але дакладна вядома, што ён меў багацьце І вось багацей пры першай жа нагодзе быў забіты мужным Машэкам Але й Машэка пасьля гэтага ня вельмі прыгожага ўчынку пражыў ня доўга, і сам неўзабаве прыняў сьмерць з рук жанчыны сваёй мары, якой, як высьветлілася, хацелася не каханьня, а багацьця. Хлопца зь непадзеленымі пачуцьцямі пахавалі ў кургане, ды назвалі курган Магілай Льва А пасьля на тым месцы пачаў расьці горад У памяць аб гэтых падзеях адзін з раёнаў і сёньня называць Машакоўкай Пясьняр «касы й сахі» напісаў на гэтым матэрыяле ажно цэлую паэму, а магілёўскі піўзавод, які яшчэ ня так даўно славіўся якасьцю сваёй прадукцыі, выпускаў піва «Машэка», якое вельмі любілі сябры адзінай у горадзе больш-менш нацыяналістычнай суполкі «Машэка». І я там быў, і піва піў...

Дзіўны народ магілёўцы Яны самі ня ведаюць, да якога этнасу яны адносяцца, на якой мове размаўляюць. Гэта ня віленскія «тутэйшыя», што будуць размаўляць з табою па-беларуску, але ніколі не прызнаюцца ў сваім беларускім паходжаньні. Гэта нават ня менскі варыянт, калі людзі ў хаце, на вуліцы, на працы гавораць падкрэсьлена па-расейску, а як толькі выходзяць у сыботу з электрычкі на роднай станцыі, адразу ж «расслабляюцца» — гавораць па-беларуску У Магілёве ж

*Працяг на старонцы 8*

# МАГІЛЁЎСКАЯ ПАЭЗІЯ

№1

Ой вы голыбі ой вы сізыя
Ой вы голыбі ой сізенькія

А ты цела маё цела белае
А што ж ты са мной ды падзелала

Табе цела ўва гробе ляжаць
А мне душы на суд стаці

Пыляцела душа ды на ўсход сонца
А там раі зачынёныя
А там раі затварёныя

Пыляцела душа ды на захад сонца
А там пекла адчынёнае
грэшнымі душамі напаўнёнае

Гыряць смолы кіпучыя
Кіпяць душы душы грэшныя

А грэшная душа сілна плакала
А нет у мяне атца мацеры
Атца мацеры ні сястры брата

Зачуў жа тое сам Госпадзь Бог
Ты ня плач душа душа грэшная
Я сам зь неба сыйду і цябе вазьму
І цябе вазьму у рай увяду

№2

Ішоў кызак з Дону
З Дону дадому
Ён сеў пад ракою
Падперся рукою
Ён еў хлеб з вадою
Ён кляў сваю долю
Бы й тая доля
На 'гні пыгарэла
На вадзе патанула
Як зачула доля
На тым баку мора
Дурэнь кызак дурэнь
За што долю клясьці
За што праклінаці
Не хадзіць было ў ранлу
Ня піць горкай гарэлкі
Не любіць краснае дзеўкі
Тыя цябе гулі
Чыбаточкі разулі
Тыя цябе танцы
Завялі малайца ў старцы

№3

А ў тых кустах дый агонь гарыць
што на том агні ды кацёл вісіць
што ў тым катле дый вада кіпіць
што ў той вадзе дзеўка крычыць
А хто там ідзе дый спысай мяне

.........

Лучшэ я ў катле скіплю
чым за цябе замуж пайду

№4

Як пайшлі нашы рыбалоўчакі
рыбачку лавіць
Не ўлавілі рыбы шчучачкі
улавілі ліна
Палядзеліся, рассматрэліся
малое дзіця
Як узялі таго дзіцятачку
на белыя рукі
Панясьлі таго дзіцятачку
на казёны двор
Палажылі таго дзіцятачку
на цісовы стол
Ударылі па дзіцятачку
у громкі калакол
Сабірайцесь раскрасавіцы
будзець перабор
А ўсі ж нашы раскрасавіцы
вясёла ідуць
Адну нашу Настасячку
пад пашкі вядуць
А за сю айцец мамачка
горкі сьлёзы ліюць
Ты ня плач айцец мамачка
яшчэ дома пяць
Не пускайце па начлежачках
пускай дома сьпяць
Не давайце распустачкі
як мне маладзе

№5

Як у полі у полі
Тры дубы стаяць
Ой тры дубы стаяць

Пад тымі дубамі
Тры палкі салдат
Ой тры палкі салдат

А ў першым палочку
Кончак іржэць
Ой кончак іржэць

А ў другім палочку
шабелькі брешчаць
Ой шабелькі брешчаць

А ў трэцьцім палочку
Брат брата забіў
Ой брат брата забіў

А забемшы брата
Сеў пісьмы пісаць
Ой сеў пісьмы пісаць

Сеў пісьмы пісаць
Ды матулі слаць
Ой ды матулі слаць

А служылі ж мамка
Мы ў адным палку
Ой мы ў адным палку

А любілі мамка
Дзявіцу адну
Ой дзявіцу адну

А я ж яго мамка
Пачэсьці прасіў
Ой пачэсьці прасіў

А ён жа мне мамка
Ды не паступіў
Ой ды не паступіў

А я ж яму мамка
Галаву зрубіў
Ой галаву зрубіў

Ляцела зязюленька
борам летучы
Ой плакала матуленька
к сыну ідучы

*Здымак Алены Адамчык*



# Першасная эстэтызацыя

Сяргей Паўлоўскі

1 Настае дзень, калі народны паэтычны тэкст чытаецца цікавей за прафэсійныя вершы І калі песьня, якая некалі прыван дравала з-за мяжы, цікавейшая за «чыста нашу» Настае дзень самапазнаньня Мы самі сабе пра сябе нічога ня скажам, не параўноўваючы сябе зь іншымі А тут, калі яшчэ можна ўявіць сабе расейскі, напрыклад, арыгінал, і разгледзець усе «дэфармацыі» й напластаваньні, — убачыш жывыя рухі, у якіх выяўляюцца ўнутраныя прырода й культура краю

13 гадоў назад я падарожнічаў у гэтым краі разам зь сябрамі Мы зьбіралі песьні й этнаграфічныя рэліквіі. Часам якая небудзь бабка, ня могучы ўжо сьпяваць, расказвала песьню, як верш Я запісваў у нататнік, і пачуцьцё фатуму ў гэтай бязьлюднай весцы пасярод дрымучага лесу ахоплівала мяне.

І яшчэ — адчуваньне першакрыніцы Першасная эстэтызацыя ў гэтых магілёўскіх лясох і была ўласна беларуская, бо не зазнала ўплываў эстэтызацыі другой, прафэсійнай Так, як на захадзе Беларусі, дзе праз касьцёл і школу культывавалася пальшчызна Або ў гарадох, дзе першасная эстэтызацыя была начыста выціснутая расейшчынай

2 У вёсцы Хадунь нам зладзілі сапраўдныя вячоркі ў хаце Ганны Пракопавай Таўтонавай Сама яна з 1917 году, жыве адна, «дзявіцаю», трымае дзьве казы, парсюка, гоніць гарэлку Але жыве бедна Крыху сьпявае

Яе сяброўка Прося Пятрова Канапелька з 1909 году, мае чатыры клясы адукацыі ў хатняга настаўніка, з тых часоў памятае безьліч расейскіх вершаў, чым і вядомая ў ваколіцы Чытае з выразам і моцным магілёўскім акцэнтам

Тут нішто не ўспрымаецца як іншароднае Ці то ад старасьці, ці ад таго, што натуральныя людзі натуралізуюць сабою ўсё, да чаго ні дакрануцца Іх натуральная культура дасканалая, як Мідасава золата Яна памірае разам зь імі, інстынктыўна праз ныімі да прыгоства

Таўтонава Маруся Сямёнава яшчэ маладая, мае чысты дзявочы голас. Ноччу, пасьля вячорак, яна вярталася дадому праз усю вёску й сьпявала І яшчэ доўга чуваць быў яе сьпеў, як бы адасоблены ад яе, сам па сабе У 1999-м ёй будзе семдзесят

Царкву ў Хатовіжы перад вайной, у 1941 годзе, разбурылі на загад старшыні сельсавета Шаўцова Цэглу прадалі і цяпер застаўся толькі падмурак А ў Куляшоўцы, два кілямэтры ад расейскай мяжы, драўляная царква захавалася Лічба «1893» на фасадзе На макаўцы крыж з мэталу й каляровага шкла. Вакол — чыста казачны лес Але не такі, як у «Літуаніі» Андрыёлі, і не такі, як у «Палесьсі» Шышкіна Гэта той беларускі лес, які ведае толькі беларускую першасную эстэтызацыю Другой беларускай альбо яшчэ не было альбо яна яшчэ не названая

Назвы вёсак — Вярхоўка, Вароцькава Батвінаўка Бедныя хаткі й бедныя бабкі Дзе бабцы яшчэ хапае здароўя — там падтрымліваецца акуратнасьць Акуратная хата не ўспрымаецца як бедная, не адштурхоўвае Але шмат і такіх, дзе вокны й дзьверы забітыя дошкамі Гаспадыні іх — пад сінімі жалезнымі крыжамі на вясковым могільніку

Бяззубая бабуля, якая «ўсё па забыла», кажа, што пагарэлі яны Калі? У вайну У вайну ўся вёска была спаленая немцамі Усяго за 35 гадоў тут вырас гэты заняпад, нібы яго талы адразу й будавалі нанова

Хадоска Лісеіха Стасянкова белая, як сьмерць, глухавая, і трэба крычаць Лісеіха — гэта мянушка, а на самой справе яна Хадосься Максімава, 1903 году

— Дауней я завадэвуш была Якая свадзьба, я за першым сталом сяджу... Як залезем на печ, як запяем Усе казалі во гэта песьні...

Поля Восіпава Нікіценка ходзіць «ракам», бо ёй сьцягае жылы сьперадуў Яна з былых заможных, і хата у яе поўная ўсялякіх этнаграфізмаў. Грэбні, глякі, верацёны, сярпы, на покуці — абраз, на сьцяне — маляваны дыван, посьцілкі, ручнікі... хлеб, сала й памідоры і песьні.

Аўтэнтычны фальклёр у Беларусі сьпяваюць толькі бабкі Маладыя або не сьпяваюць наогул, або падрабляюцца пад старых, калі хочуць, каб іхныя сьпевы гучалі «аўтэнтычна»

3 Сёньня, праз 13 гадоў, я ня ведаю, ці засталіся яшчэ тыя старыя, ці таксама перасяліліся пад сінія крыжы 13 гадоў назад у некаторых вёсках яны былі апошнімі жыхарамі й апошнімі праваднiцамі першаснаи эстэтызацыі.

Але культура любіць трансфармацыі Магчыма таму сёньня, калі гэтыя песьні страчваюць сваиго натуральнага носьбіта, а штосьці заўважнае ў пісанай паэзіі здараецца рэдка, народны паэтычны тэкст чытаецца цікавей за прафэсійны верш



## Богу во Тройцы Святои Славимому

Смертелным кождый оком нехай то обачыт
И по смерти як слава добродеем вдячыт
Затлумит земля порох чловека былого
Давности лета укажет, якобы ничого,
Леч цнот трудно томоват — тые вечне трвают
Спотомного веку людей разжарают,
В которых ся знайдовал вселякои чти годный —
Арсеній Азарович, инок Богобойный
Фундатор монастыра тутешнего пилный
А добродей сей церкви нигды не омылиый
Филяры, окна, двери его коштом стали
През шкотулу оздобы и муры дознали
Монастыра будынки, муры выславляют
И нагробок вдячности ему выставляют
Звонницы фундаменты видоком всім явным
Же его суть початком сумы на то даным

**Жыл Лет 74. Умер року 1652, месяца декабря 1 дня.**

# Беларускі верш XVII стагодзьдзя

Гэтая пліта-эпітафія ўпрыгожвала сьцяну Магілёўскай Багаяўленскай царквы, маючыма, побач з пахаваньнем самога Арсеня Азаровіча З канца XIX ст яна знаходзілася ў магілёўскім царкоўным старажытным сховішчы, а цяпер — у сховішчах Нацыянальнага Музэю Беларусі.

Мэталічная пліта эпітафія была выраблена ў 1653 г У цэнтры выгравіраваны дзьве калёнкі надпісу паўуставам Упрыгожаньні картушоў падобнага кшталту шырока ўжываліся ў часы рэнэсансу ў Нямеччыне. Характэрныя яны й для магілёўскага мастацтва XVII-XVIII ст (напрыклад, гравюра Магілёва 1702 г., выкананая мясцовым майстрам Васілём Вашчанкам)

З тэксту эпітафіі вынікае, што «інак манастыра Арсень Азаровіч зьяўляецца фундатарам і дабрадзеем манастыра тутэйшага», коштам яго былі зроблены філяры, вокны, дзьверы, а таксама вымураваны падмурак манастырскай званіцы, за што нашчадкі «нагробак удзячнасьці яму выстаўляюць»

Нам пашчасьціла знайсьці у Нацыянальным архіве Беларусі тэстамэнт Арсеня Азаровіча цікавы помнік духоўнай культуры XVII ст У ім у прыватнасьці гаворыцца, што «інак Арсень Азаровіч завяшчаў манастыру пяць моргаў сенакосу над Багародчынамі, агарод Касьцельскі, а таксама зрабіў шмат пабудоў у манастыры». Гэта пацьвярджаецца й сьпісам братчыкаў-ахвяравальнікаў гэтага манастыра

Наогул прозьвішча Азаровіч ці Азарэвіч часта сустракаецца у дакумэнтах Магілёва й Магілёўшчыны. Менавіта Арсень Азаровіч нарадзіўся у заможнай сям'і Ягоны бацька, Антон сын Азара, — вядомы купец, валодаў зямельнымі гарадзкімі пляцамі, сенакосамі, а таксама меў камору на рынку, фундаваў храмы Раства Багародзіцы й Сьв Мікалая Акрамя Арсеня ў яго былі яшчэ тры сыны, якія таксама былі дабрадзеямі Багаяўленскага манастыра й сябрамі адпаведнага брацтва



Багаяўленскі манастыр быў адным з буйнейшых праваслаўных манастыроў у Беларусі Яго будынкі былі разбураныя ў часе II сусьветнай вайны.

**З Я**

# Сьвет Трафіма Сурты

Ігар Марзалюк

Мне здаецца, што большасьць беларускіх інтэлектуалаў стамілася чытаць «гістарычныя» опусы маладых філёлягаў ды сталага веку юрыстаў, якія ствараюць яшчэ адзін міт беларускай мінуўшчыны І справа тут не ў адсутнасьці крыніцаў а у немагчымасьці для многіх (у першую чаргу дылетантаў) адэкватна разумець лёгіку паводзінаў продкаў, не накідаць на іх чыннасьць уласныя ўяўленьні. Таму, спрабуючы прааналізаваць некаторыя аспэкты сьветапогляду магілёўскага летапісца Трафіма Сурты, я буду імкнуцца паказаць мэнтальны фон ягонага асяродзьдзя

Чаму я абраў дзеля гэтага менавіта Сурту? Па-першае, ён належаў да гарадзкога патрыцыяту, быў лаўнікам ды купецкім старастам высокаадукаваным чалавекам. Аналізуючы ягоны сьветапогляд, мы зможам паспрабаваць ахарактарызаваць некаторыя рысы мэнталітэту гэтага страту беларускага гораду 17 стагодзьдзя

Па-другое, ен шчыры праваслаўны, а гэта дазваляе пабачыць стаўленьне чалавека гэтай канфэсіі да уладаў Рэчы Паспалітай. Тым больш, што час, калі пісаў Сурта, ня зь лепшых для беларускага праваслаўя.

Т.Сурта выразна не падзяляе сьвет «дольны» і сьвет «горны», у ягонай сьвядомасьці яны існуюць у жывым узаемадзеяньні і аднолькава рэальныя Сьвет Сурты поўны дзівосаў, якія несупынна зьдзяйсьняюцца ў штодзённасьці, у іх вераць, яны ёсьць такая ж рэальнасьць, як і ўсе астатняе, што мае месца ў жыцьці

Добрае й кепскае, росквіт гораду и жахі войнаў ды эпідэміяў — усё дзеецца з Ласкі ці Кары Божай. Божы промысел — вось асноўны чыньнік разьвіцьця чалавечай гісторыі Выклік Богу кінуты чалавекам, імгненна караецца — немец «за морам», страліўшы ў неба ператвараецца у сабаку

У гэтым сьвеце несупынна йдзе змаганьне са слугамі нячысьціка, зь ведзьмакамі якія на кожным кроку шкодзяць чалавеку Прыкладам летапісец апавядае аб нараджэньні ў 1677 г. у Вільні хлопчыка з залатымі зубамі, які разам з маці праз кароткі час памірае з-за вядзьмарства чараўніцы Сурта паведамляе пра спаленьне ў 1688 г у Старым Быхаве адначасова дзесяці чараўнікоў, іх віна не выклікае ў яго сумненьня

На жаль, ведаўскія працэсы у Беларусі да гэтага часу практычна не вывучаліся, але, як вынікае з дакумэнтаў, пачатак іх прыпадае на XVI, а канец — на XVIII ст Актавыя матэрыялы магілёўскага полацкага, віцебскага, менскага ды іншых магістратаў таго часу зьмяшчаюць цікавую інфармацыю па гэтым пытаньні. Важна адзначыць той момант, што вера ў чарадзейства была неад'емным элемэнтам мэнтальнасьці грамадзтва ВКЛ у XVI — сярэдзіне XVIII ст Структура ж сьвядомасьці сялянства амаль бязь зьменаў перахавалася практычна да канца XIX стагодзьдзя

Гэтае сьцьверджаньне вельмі добра ілюструецца своеасаблівай справаздачай аб зьнішчэньні вядзьмарак сярэдзіны XVIII ст аканома маёнтка графа Тышкевіча да свайго пана. «Яснавяльможны пан!. з вашага дазволу спаліў я шэсьць чараўніц: тры прызналіся а астатнія — не... Я зьбіраю зараз зь дзесяці касьцёлаў сьвятую ваду и буду на ёй варыць кісель: кажуць абавязкова усе вядзьмаркі прыбягуць прасіць кісялю, і тады яшчэ будзе мне праца!»

У зьвязку з гэтым мне здаецца заўчаснай адмова ад тэрміну «позьняе сярэднявечча» ў дачыненьні да XVI XVIII ст Сярэднявечная мэнтальнасьць, як бачна з вышэйпададзенага, працягвала перахоўвацца і у гэты час, рацыяналізаваны погляд на сусьвет і дакладнае разьмежаваньне функцыяў «зямнога» и «нябеснага» канчаткова замацоўвацца ў эпоху Асьветніцтва. Прычым спачатку толькі ў элітарных колах грамадзтва.

Дарэчы будзе сказаць, што у гэтым сэнсе нашыя землі не зьяўляліся нейкім выняткам у параўнаньні зь іншымі эўрапейскімі краінамі. Менавіта на эпоху Рэнэсансу и Рэфармацыі прыпадае пік ведаўскіх працэсаў ва ўсім эўрапейскім рэгіёне. Нельга не пагадзіцца з Шпэнглерам, які адным з першых паказаў, што у грунце сьветапогляду творцаў «клясычнага» італьянскага Рэнэсансу была пакладзеная цьвёрдая вера у рэальнасьць д'ябальскага сьвету і у магчымасьць выбаўленьня ад яго праз абарону сьвятых. «Людзі, якія не адчуваюць за сьпінаю д'ябла ня здолелі б стварыць ні «Боскую Камэдыю», ні фрэскі Арв'ето, ні столь Сыкстынскай капэлы». Марыя Тэрэза спыніла працэсы супраць вядзьмарак на сваіх землях у 1746 г. у 1775 тое самае было зроблена ў Баварыі, яшчэ ў 1781 і была спалена ведзьма ў Сэвільі у 1782 г — у Швэйцарыі.

Ня менш цікавым будзе для нас паспрабаваць прааналізаваць патрыятызм Трафіма Сурты Ён мае двухузроўневую структуру — карпарацыйны (гарадзкі) і дзяржаўны Падзеі ў «Хроніцы» разглядаюцца з пункту гледжаньня іх мэтазгоднасьці и карыснасьці для магілёўскіх месьцічаў, найперш купцоў, да якіх Сурта й належаў З мэтай услаўленьня ды паказу сацыяльнае значнасьці Магілёва й ягонага жыхарства і была напісаная «Хроніка» Прычым зроблена гэта было адмыслова. Кожная хроніка ў сярэднявеччы, паводле слушнай заўвагі Ж.Ле Гоффа, была «развагай аб сусьветнай гісторыі», у якой мясцовая гісторыя паказвалася як складовая частка апошняй і ўводзілася ў агульную хаду гістарычнага разьвіцьця чалавецтва ад Біблейскіх часоў. Тое ж самае зрабіў і Сурта, але ягоная навацыя палягала у тым што калі папярэднікі-летапісцы рабілі гэта з гісторыяй краіны то ён узьвёў у «агульнасусьветны» кантэкст гісторыю менавіта места зьвязваючы прычыну ўзьнікненьня Магілёва зь біблейскімі часамі. Згодна зь летапісцам, сам апостал Андрэй, легендарны Хрысьціцель Русі, блаславіў падчас сваёй місіі «і горы, дзе ёсьць Магілёў». Такім чынам пачатак гісторыі гораду сакралізаваўся ягонае існаваньне набывала боскую наканаванасьць ды «адвечнасьць»

Паказальнае стаўленьне праваслаўнага Сурты да ўладаў Рэчы Паспалітай. У «Хроніцы» ня зьмешчана ніводнай ад

# Палёт над гняздом хахулі

abc

***«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!»***

У хахулі таксама няма гнязда

Нягледзячы на неверагодную сьпёку, сёлета вада ў нашых рэках ня ўпала так, як тое было ў 92-м Выправка традыцыйнае штогадовае экспэдыцыі «НН» гэтым летам была ў поўным сэнсе мэтаваю Мы дасьледавалі раку Асьцёр, прайшоўшы яе ад Смаленскай вобласьці да Сажа па Клімавіцкім і Крычаўскім раёнах у пошуках істоты, якая для нас стала сымбалем і пачаткам рубрыкі «abc» («НН» №2 1991)

Апошні раз хахулю (Dosmana moschata), бачылі ў гэтых раёнах усходняе Магілёўшчыны ў 1955 г Асьцёрская (сажанская) папуляцыя беларускага падвіду хахулі з 1951 г была апошняй натуральнай папуляцыяй у нашым краі Чырвоная Кніга Беларусі, што выйшла ў 1993 г ужо не фіксуе хахулю, такім чынам выкрэсьліўшы яе зь беларускай фаўны Спраўдзіць гэта й была прызначана дасьледчыцкая група «НН» на Магілёўшчыне 12.06 1994

У 1849 г у бухце Даскі (паўднёвая выспа Новас Зэляндыі) паляўнічыя злавілі невядомую раней птушку, якая порстка бегала па сьнезе й адважна супраціўлялася спробам яе злавіць. Гэта вялікая груваcтая птушка зь зялёным пер'ем сінімі грудзямі й галавою мае вялікую магутную дзюбу й моцныя ногі ярка-барвовага колеру — такахе (Notornis hochstetteri). Да 1898 г. было выяўлена толькі чатыры такія птушкі. Аднак, у 1948 г. на зьдзіў усяму сьвету натуралістаў, такахі былі адкрытыя зноў у маленькай даліне Навазэляндзкіх Альпаў блізу маляўнічага возера Тэ-Анаў. Вывучэньне пацьвердзіла наяўнасьць звыш сотні асобнікаў гэтае птушкі Каб захаваць такахе, ды яшчэ адну унікальную папугу — какапа (Strigops habroptilus) на гары Бруса быў створаны дзяржаўны рэзэрват дзеля разьвядзеньня гэтых птушак Адкрыцьцё такахе другі раз праз паўстагодзьдзя — нярэдкі прыклад для Новае Зэляндыі, дый для сусьветнае практыкі.

Адно з наймацнейшых уражаньняў сёлетняе экспэдыцыі на Магілёўшчыну — гэта нясьпынная гаспадарчая дзейнасьць у так званых «радыяцыйных» раёнах Паўсюль на палях машыны, паўсюль нехта нешта будуе

Асьцёр — глыбокая, даволі хуткая рака з маляўнічымі пустыннымі берагамі У Беларусі яна пачынае выкручвацца, берагі становяцца месцамі зусім стромкія Распараныя сонцам трысьнягі, мята, безьліч кветак б'юць гострым водарам, як вечаровыя флёксы на могілках

Нашая пільнасьць, зь якою мы ад пачатку ўглядаліся ў кожны корч, у норы на берагох са спадзевам убачыць тое, дзеля чаго плылі, пачала прыгасаць ад сьпякоты Ажно нарэшце на пляскатых берагох каля ўпадзеньня ў Асьцёр Сасноўкі (зьлева), мы пабачылі на ранішнім мокрым пяску даўгія пісягі ад хахуліных хвастоў і адбіткі іхніх лапаў, якія ні з чым іншым зблытаць ня можна На наступную раніцу, яшчэ да сьвітанку, мы йшлі ўжо на тое месца, што было ўсыпана аскепкамі сьлімаковых ракавінаў — рэшткамі начнога баляваньня хахуляў.

Калі ж з супрацьлеглага стромкага берагу пачуўся гогат ці то качкі ці то парсюка — сумлеваў не засталося Яны яшчэ ёсьць. Ёсьць тыя істоты з качынымі лапкамі, якія, наеўшыся, дурэюць, засунуўшы сабе хобат у рот, — задаволена гагочуць

За тыя тры дні, што мы прабылі на поўначы Клімавіцкага раёну з 16.06 па 19.06 нам давялося пабачыць хахуляў двойчы. Бліжэйшае знаёмства зь імі было немагчымае, а каб сфатаграфаваць іх патрэбная адмысловая тэхніка. Спробы затрымаць хахуляў мы не рабілі, бо яны адчайна енчаць і скуголяць, выяўляючы сваю крайнюю безабароннасьць, нягледзячы на ўсю порсткасьць, зь якой яны лавіруюць у падводных зарасьцях

Гут, на сумежжы Магілёўшчыны й Смаленшчыны, балазе пасьля прыпыненьня меліярацыі й зьніжэньня тэмпаў гаспадараньня наогул (усё ж радыяцыя...), хахулі здолеюць выжыць Аднак без нацыянальнае аховы гэта немагчыма Галоўнымі ворагамі гэтых жывёлаў на сёньня сталіся норкі ды андатры, непрадумана інтрадукаваныя за савецкім часам



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

***Валянціну І. зь Менску.*** «Наша Ніва» — ня тое выданьне, чытачоў якога трэба было б пераконваць у гэтым Сваёй галавы пакуль няма Газэту атрымалі. Але досыць пра кепскае Напішыце што-небудзь добрае

***Алесю М зь Віцебску*** Газэты раздражняюць, калі *вашай* сярод іх няма. Але кожны робіць тое, што можа і што лічыць патрэбным.

***Ігару Ц. зь Віцебску*** Беларусі не развал можа пагражаць, а падзел, бо яна ўсё яшчэ аб'ект палітыкі іншых дзяржаваў

***Віталю зь Менску*** Пра маладзёжны рух можна даведацца ў Менску на вул Варвашэні, 8

***Андрэю Ш. зь Менскага раёну*** Калі ўзяць адзін з эпізодаў і зрабіць зь яго сюжэтнае апавяданьне (перад тым пачытаўшы, напрыклад, Эдгара По), то вашыя пачуцьці могуць стаць зразумелыя ня толькі вам

## *Фундатары «НН»:*

Магілёўская Рада БНФ — $600
Сяргей Мурог зь Менску — $20
Віталь Кажан з ЗША — $30
Аўген Протас з ЗША — $40
Gan Ainm — Cúig Chéad Punt

Вялікі дзякуй!



НАША НІВА №11(29) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Заснавальнік і выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 220123 Менск, а/с 71 альбо 2041 Вільня, а/с 2082. Падпісны індэкс 63125, Steigimo liudijimas Nr.1178. Рэдакцыя (Менск, Іванаўская 56 альбо Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Дзярновіч (адк. сакратар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар), Андрэй Антонаў (набор); пры ўдзеле Сяргея Шупы. Афсэтны друк Фармат А3 Агульны наклад 20 тыс Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, пр. Скарыны, 79). Кошт дамоўны
Падпісана ў друк 21.12.94 Замова 1795